СІТУАЦЫЯ

# ДЫЯГНАЗ: СМЕРЦЬ АД ЖЫЦЦЯ. САБАЧАГА

**У суботу, 12 снежня, завод імя Вавілава працаваў у лік 31 снежня. Каб спакойна сустрэць Новы год. Слесар механазборачных работ Уладзімір Барысавіч Анцілеўскі гэты Новы год ужо не сустрэне. І ніякі іншы таксама. Справа ў тым, што ён у гэты дзень памёр.**

Факт, трэба сказаць, самы звычайны. Кожны дзень хтосьці памірае. Іншы раз сотні і тысячы. То тут, то там падаюць самалёты і верталёты, сыходзяць з рэек цягнікі, адбываюцца землятрусы і цыклоны з антыцыклонамі, нарэшце, людзі заўзята знішчаюць адзін аднаго ў маленькіх і вялікіх войнах. Факт смерці сам па сабе нас ужо не пужае: адбылося прывыканне, псіхіка прыстасавалася да ўмоў жыцця. Патрэбен Чыкаціла, які рваў зубамі яшчэ жывых ахвяр свайго сексуальнага «зруху па фазе», каб мы здзівіліся.

А тут і ўвогуле зусім проста: прыйшоў чалавек на работу, стала дрэнна з сэрцам. Па дарозе ў бальніцу наступіў крыз, і ён памёр. Вось і ўсё. На гэты выпадак ёсць бессэнсоўнае — Бог даў, Бог узяў. У якасці суцяшэння. І я ніколі б не ведаў, што Уладзімір Барысавіч наогул жыў, а тым больш — што памёр. Сустрэў знаёмага, і ён расказаў: так і так, выклікалі «хуткую», яна хворага забрала, але ахова адразу машыну не выпусціла, а калі выпусціла — было ўжо позна. Па словах знаёмага, якраз гэтых хвілін і не хапіла. Ну каго такое не зацікавіць, не ўзрушыць? Вось і мяне ўзрушыла...

### СЯМ'Я

12-га ранкам Уладзімір Барысавіч пайшоў на работу як звычайна. Яго жонка, паштальёнка па прафесіі, была дома ўжо ў дзве гадзіны. Тут пазванілі. Сын узяў трубку. Яму сказалі: з бацькам дрэнна, яго забралі ў бальніцу (у гэты час ён ужо памёр, рыхтавалі, значыць, так. — **С. Ш.**) Праз 15 хвілін — зноў званок. Сын крыкнуў: «Тата страціў прытомнасць!»

Хуценька сабраліся, паехалі. На падыходзе да бальніцы сустрэлі бацькавага сябра Косцю. Ён ішоў, апусціўшы галаву, і жонка ўсё зразумела. Потым была медсанчасць завода, урачы, слёзы, чаканне.

Потым — пахаванне, зноў чаканне, цяпер ужо агента са спецкамбіната (званілі двойчы, ім адказалі — ужо выехала, а аказалася, што ёй ніхто нічога не гаварыў і яна паехала па іншаму выкліку), пошукі царквы, дзе можна адпець нябожчыка, памінкі, на якія прыйшоў увесь 5-ы цэх і г. д., — усё, што звязана з гэтай сумнай, але непазбежнай цырымоніяй.

Што канкрэтна адбылося на заводзе, сям'я не ведала, усялякія размовы пра гэта перадаваць мне палічылі немэтазгодным.

### 4-я ПАДСТАНЦЫЯ «ХУТКАЙ ДАПАМОГІ»

Па гэтаму выкліку з завода імя Вавілава выехала брыгада, дзе ўрачом была Ірына Іванаўна Машыр. Выклік, як яна нагадала, быў дзесьці каля гадзіны дня. Ехаць тут недалёка: крыху па вуліцы Кедышкі, крыху — па Валгаградскай, потым па Макаёнка. Ахова прапусціла «хуткую» адразу (на гэты конт ёсць спецыяльны загад адміністрацыі). Чакаць не сталі, паехалі ў цэх, балазе, іх сустрэлі. Ірына Іванаўна з першага погляду вызначыла: хворы, хутчэй за ўсё, вельмі цяжкі. На зваротным шляху, аднак, узніклі праблемы.

Вахцёр агледзеў машыну, запатрабаваў пропуск. Пропуска ў Анцілеўскага не было, ён застаўся ў цэху, і яго таварыш за ім пабег. Усё гэта заняло, па словах Ірыны Іванаўны, 3—4 хвіліны. Яна яшчэ нервавалася, успомніла, што крыкнула вахцёру: «Выпускайце хутчэй, цяжкі хворы!»

У Анцілеўскага быў шырокі інфаркт міякарду, гаворыць Машыр. Шанцы на выратаванне — мінімальныя.

Уладзімір Барысавіч быў увесь час у прытомнасці, з дапамогай, але рухаўся. Паколькі стан быў надзвычай цяжкім, вырашылі везці ў медсанчасць завода (гэта літаральна побач). Дзесьці за 500 метраў ад рэанімацыі сэрца спынілася. Рэаніматарам прывезлі ўжо труп.

Ірыну Іванаўну два дні трэсла ў нервовай ліхаманцы.

Вось, яшчэ: медпункт на заводзе ў той дзень не працаваў. Фельчар у даным выпадку, канешне, нічога б не зрабіў, але...

### ПРАХАДНАЯ

Першая спроба штосьці высветліць у аховы была няўдалай. Нейкі дзядуля з ордэнскімі планкамі, які назваў сябе Сяргеем Кузьмічом, гутарыць са мной не захацеў, верагодна, чырвонага колеру пасведчанне «Звязды» падзейнічала на яго адмоўна. «Ідзі, ідзі, ахова гэтымі справамі не займаецца (пропускам на тэрыторыю? — **С. Ш.**). Ідзі, у мяне работы шмат». Словам, мяне турнулі.

З дапамогай начальніка рэжыму мне ўдалося звязацца з Аляксандрам Цецеравам. Ён кіруе аховай. У суботу Аляксандр Лявонавіч працаваў, але ў той момант на месцы яго не было. Так што яму самому прыйшлося высвятляць абставіны. Вынік такі:

— «Хуткую дапамогу» на тэрыторыю прапусцілі па загаду дзяжурнага па заводу. Калі яна выязджала, вахцёр толькі запісаў два прозвішчы. Ну колькі гэта магло заняць часу? Дзветры хвіліны, не больш. А пропуск паабяцаў прынесці майстар цэха. Так што ніякага крыміналу тут не знаходжу.

У кожнага, словам, свая версія, і мне не хочацца выступаць тут у ролі трацейскага суддзі. Тым больш, калі для гэтага ёсць спецыяльныя людзі. Яны атрымаюць заключэнне медыкаў, яны скажуць сваё слова, так што не варта бегчы наперадзе цягніка.

Я толькі дазволю сабе паразважаць, пафантазіраваць. Скажам, калі б выпадак быў не такі цяжкі і ўсё залежала б сапраўды ад хуткасці дастаўкі хворага ў бальніцу? Калі б гэтыя тры-чатыры-пяць хвілін сапраўды былі рашаючымі? Завод, зразумела, не зусім звычайны, прапускны рэжым ёсць (хоць мне і сцвярджалі адваротнае), і ён дастаткова строгі. Каб, значыць, захаваць дзяржаўную тайну. На 302-м заводзе, напрыклад, наогул не пускаюць на тэрыторыю нікога. Нават «хуткую дапамогу». І гэта мне не зусім зразумела. Якая б тайна ні была, яна не вартая жыцця чалавека.

Праўда, у нашых умовах усё гэта — не больш чым сафістыка, нічым не абгрунтаваныя сцвярджэнні. Таму што жывём мы, вы мяне прабачце, не ў нейкай адасобленай, незалежнай краіне, а ўсё ў тым жа СССР. Мы ўсе адтуль выйшлі, СССР у нас у душы, з усімі адсюль вынікамі. Адзін з іх: дзяржава — усё, чалавек — нішто...

### АНАМНЕЗ (гісторыя хваробы)

Я дазволю сабе некалькі апярэдзіць медыкаў і паставіць свой дыягназ. Думаю, гэта будзе карэктна, бо мой дыягназ не мае адносін да медыцыны.

Слесар Анцілеўскі адпрацаваў на заводзе каля 30 гадоў. Як мне сказалі ў прафкоме, «мы ведаем самых лепшых і самых дрэнных». Уладзіміра Барысавіча ведалі як самага лепшага. Тут звычайны шлейф: Дошка гонару, граматы, падзякі. Актыўны чалавек быў Анцілеўскі, эмацыянальны, такія хутка, растлумачылі мне, згараюць. Усё яго цікавіла, усюды ён быў на месцы. Жонка гаворыць: «Яго партыя і камсамол выхавалі. Ён такі, ну... няўрымслівы быў, перажываў за ўсё...»

У цэху яго паважалі, як паважаюць чалавека, які робіць сваю справу лепш за іншых. Рабацяг не абдурыш, там аўтарытэт цяжка зарабіць. А ў Анцілеўскага ён быў. На памінкі прыйшоў увесь цэх. Гаварылі шмат добрага не толькі па традыцыі. Яго смерць уразіла ўсіх. 54 гады, можна сказаць, жыццё ў самым росквіце, і вось...

Але чым больш дэталяў мне станавілася вядома, тым больш узнікала пытанняў. Калі я зайшоў у кватэру Анцілеўскіх, у мяне быў лёгкі шок. Абадраная падлога, зусім небагатая мэбля, — словам, аб вялікім дабрабыце гаварыць не прыходзіцца. Кватэра маленькая, пакоі неізаляваныя, і іх усяго два. На сына з жонкай і малым, маці, бабулю (не ведаю чыю), дачку і самога гаспадара. На сем, як я зразумеў, чалавек. Сын, адзначу, «афганец». Такія вось справы. З аднаго боку — прафесіянал высокага класа і актывіст, з другога — сем чалавек на два пакоі.

Дарэчы, у прафкоме запэўнілі: ведалі, што жыве цяжка, на чарзе стаяў, дачку (яна працавала з бацькам) з чаргі здымаць не будзем, думалі, прабачце, думаем ім даць кватэру, Уладзіміра Барысавіча няма, дзеці выраслі, у сына свая сям'я — на заводзе ўсё думаюць. Аб чым, паважаныя? Аб чым вы думаеце зараз, калі і раней ведалі, як жыве ваш лепшы рабочы?

Мне намякнулі: ну, вось ён такі няпросты, цяжкаваты чалавек быў. Пытаю: у чым гэта выяўлялася? Ды да апошняга часу абеды не браў з сабою, значыць, аб здароўі сваім не клапаціўся. Ага, вось дзе сабака закапаны: ён, выходзіць, сам вінаваты. Вельмі цікава. А вы спыталі — чаму? Вы, прабачце, дома ў яго былі калі-небудзь?

Сябры Уладзіміра Барысавіча скінуліся і дапамаглі сям'і грашамі. Завод толькі думае (задуменная такая адміністрацыя) выдаць грашовую дапамогу. 10 тысяч рублёў. Пры тым, што сёння пахаванне па поўнаму разраду ў горадзе Мінску каштуе 25—30 тысяч.

Магчыма, я буду рэзкім і не зусім справядлівым, але праўда такая: пажавалі — і выплюнулі.

І вінаваціць няма каго. Ну не «стрэлачнікі» ж вінаватыя ў рэшце рэшт! Адно застаецца — па-філасофску заўважыць: жыццё, сабачае наша жыццё. І паставіць кропку.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

БАЛЮЧАЕ ПЫТАННЕ

# Не міласціну, а работу

## просяць інваліды і маці дзяцей-інвалідаў

Бяда прыходзіць да нас заўсёды нечакана. І ў кожны дом па-рознаму. У сям'ю Галіны С. яна ўварвалася амаль аднначасова з радасцю, калі нарадзіўся іх сын-першынец. Медыкі паставілі іх немаўляці бязлітасны дыягназ: дзіцячы цэрэбральны параліч. А неўзабаве і служба сацыяльнага забеспячэння пацвердзіла: інвалід з дзяцінства.

Наша газета ў свой час шмат пісала пра гэту страшэнную, невылечную хваробу. Расказвалі мы не толькі пра фізічныя пакуты хворых, але і пра вельмі складаныя бытавыя праблемы іх сваякоў, асабліва маці. Так, на жаль, здараецца, што далёка не кожны бацька вытрымлівае цяжкія выпрабаванні, пакідае сям'ю з хворым дзіцем. А ў дзіцячы садок і ў школу такія сын ці дачка хадзіць не могуць.

Пэўны час сына Галіны С. даглядаў дзядуля. Калі ж ён памёр, давялося жанчыне пакінуць работу па спецыяльнасці. Як жыць, калі пенсія па догляду за дзіцем-інвалідам не перавышае 2 тысяч рублёў?

Уладзіміра П. хвароба напаткала, як кажуць, у росквіце творчых сіл. Паспяхова абараніў дысертацыю, меў шмат цікавых задум, але... падвялі ныркі. Пасля складанай аперацыі прызначылі яму інваліднасць II групы. Пенсія крыху больш за 2 тысячы рублёў. На ранейшую работу па стану здароўя не бяруць. А чалавек яшчэ даволі малады. Вось і паўстала, як і ў Галіны С., пытанне: як жыць далей?

Такія ж балючыя пытанні ўвесь час непакояць інвалідаў Ігара К. (усяго 25 гадоў яму), Аляксея К., Анатоля З. (абодвум па 40 гадоў) і мнагадзетных маці Корсак, Перальман, Шаўцову і іншых, якія выхоўваюць па 5—6 дзяцей. У розных канцах горада жывуць гэтыя людзі, ніколі не ведалі адзін аднаго, але сабраліся разам пад агульным дахам дома, што па вул. Ляўкова, — у Мінскім камбінаце надомнай працы. Не міласціну прасіць прыйшлі сюды, а пасільную работу.

Згодна са статутам гэтага спецпрадпрыемства, створана яно было якраз «у мэтах падтрымкі нізкааплачваемых слаёў насельніцтва». Розныя вытворчыя службы ёсць тут: тры швейныя, трыкатажны, абутковa-футравы, картанажны і іншыя цэхі і ўчасткі. Людзі, пра якіх пішу па іх жаданню, былі прыняты на работу ў радыёмантажны цэх. Каля 400 чалавек аб'ядноўваў гэты калектыў. Амаль палавіна надомнікаў — людзі з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй. 21 чалавек наогул не могуць рухацца самастойна — машына з камбіната дастаўляе ім дамоў камплектуючыя і забірае ад іх гатовую прадукцыю. Што ж робяць інваліды і мнагадзетныя маці?

Па дагавору з вытворчым аб'яднаннем «Гарызонт» выконвалі яны на працягу пяці гадоў працаёмкую, ручную, не выгадную для асноўнага прадпрыемства работу, выраблялі жгуты, антэнныя панелі для тэлевізараў — каля 50 розных аперацый. Няпроста ў хатніх умовах нарэзаць правады па памерах, зачысціць іх, зняць ізаляцыю, залудзіць, прыпаяць і г. д. Але стараліся людзі, заўваг за дрэнную якасць ніколі не атрымлівалі. Бачыла я натруджаныя рукі інвалідаў... Але ж, людзі адукаваныя, працавітыя, яны пастаянна ўдасканальвалі сваё майстэрства, прыдумвалі розныя няхітрыя прыстасаванні і механізмы, якія палягчалі апрацоўку дэталяў, павышалі прадукцыйнасць працы ў хатніх умовах.

Работа не толькі прыносіла грашовы дадатак да іх мізэрных пенсій, але дапамагала забыцца на хваробы, неўладкаванасць, надавала аптымізму. Аднак у пачатку года, калі павысіліся расцэнкі на прадукцыю, якую выраблялі рабочыя камбіната надомнай працы, вытворчае аб'яднанне «Гарызонт» адразу ж значна знізіла свае заказы і, адпаведна, куды менш пачало выдаваць камплектуючых. Давялося некалькі разоў скарачаць штаты ў гэтым цэху.

Сёння тут на ўліку ўсяго 216 чалавек. Наўмысна не пішу: «працуюць 216 чалавек», бо, як паведамілі яны ў сваім пісьме ў рэдакцыю «Звязды», «Першага снежня 1992 года ВА «Гарызонт» афіцыйна паведаміла нам аб скасаванні дагавору з намі. Сёння 125 інвалідаў I і II груп, а таксама мнагадзетныя маці і маці дзяцей-інвалідаў пазбаўлены работы, г. зн. маральнай і матэрыяльнай падтрымкі... Мы даведаліся, што нашу работу перадалі малым прадпрыемствам, якія аб'яднанне «Гарызонт» стварае ў сельскай мясцовасці».

Вельмі прасілі аўтары пісьма «прыняць удзел у лёсе нашага калектыву». Хто ж і чаму раптам пазбавіў работы людзей, якія і так моцна пакрыўджаны лёсам? З такім пытаннем перш за ўсё звярнулася да дырэктара камбіната надомнай працы Міхаіла Мыслівца. Праўда, пасада яго цяпер інакш называецца, бо на старым будынку па вул. Ляўкова новая шыльда прымацавана: «Мінскае прамыслова-гандлёвае прадпрыемства «Верас». Гучыць!

Міхаіл Міхайлавіч пацвердзіў, што падстава для хвалявання ў інвалідаў (аўтараў пісьма) слушная. Сапраўды, не дае работы для надомнікаў «Гарызонт». Свае ў іх праблемы, сваіх рабочых уладкоўваць трэба, а пра нашых інвалідаў клапаціцца іх ніхто прымусіць не можа. Сёння ў дзеянні рыначныя адносіны, і галоўнае для ўсіх прадпрыемстваў — эканоміка. І для нас таксама — мы ж цяпер прамыслова-гандлёвае прадпрыемства. Круцімся, як можам, імкнёмся, праўда, прытрымлівацца былога статута. Клапоцімся пра нашых інвалідаў: аплачваемыя водпускі на 3 дні павялічылі, зубаўрачэбны кабінет, пакой псіхалагічнай разгрузкі адкрылі, кіслародныя кактэйлі гатуем і г. д.

Спакойна так апавядаў дырэктар пра свае вытворчыя і бытавыя клопаты-праблемы, пра цяжкасці ў рабоце. Давялося нагадаць мэту майго візіту: яшчэ раз больш настойліва спытала пра далейшы лёс «нізкааплачваемых слаёў насельніцтва» з радыёмантажнага цэха, якіх літаральна выкінулі за борт, у бушуючы акіян рыначных адносін. Міхаіл Міхайлавіч, відаць, раззлаваўся, бо адрэзаў коратка: «Я нікому нічым не абавязаны». На гэтым наша гутарка скончылася.

Давялося ехаць непасрэдна да работадаўцы — на вытворчае аб'яднанне «Гарызонт». Забягаючы наперад, парадую інвалідаў (аўтараў пісьма) — работай на 1993 год, хоць і не ў поўным аб'ёме, іх паабяцалі забяспечыць: па-ранейшаму будуць збіраць яны антэнныя панелі. Не адзін кабінет дзеля гэтага наведала, не адзін дакумент прачытала і прааналізавала. А спачатку намеснік дырэктара аб'яднання Г. Малашын і слухаць мяне не хацеў: маўляў, нам сваіх рабочых уладкоўваць трэба, на 40 жа працэнтаў (паштучна) скарацілі сёлета выпуск тэлевізараў, вось працоўны калектыў і наказаў нам ліквідаваць усе дагаворы па кааперацыі. Па-першае, як высветлілася, не працоўны калектыў. Такое рашэнне было прынята 17 ліпеня г. г. на сумесным пасяджэнні адміністрацыі і прафсаюзнага камітэта. І не пра поўную ліквідацыю ішла размова ў пастанове, а пра скарачэнне. Па выніках работы спецыяльнай камісіі падрыхтавалі загад аб скарачэнні сувязей па кааперацыі. Скасавалі амаль палавіну дагавораў — усяго шэсць, але ў першую чаргу з прамыслова-гандлёвым прадпрыемствам «Верас». Як прызнаўся старшыня прафсаюзнага камітэта аб'яднання Уладзімір Рудзянок, ніхто не ведаў, што гаворка ідзе менавіта пра інвалідаў. Пры ўсіх складанасцях жыцця свайго калектыву інвалідаў можна было і не крыўдзіць.

А потым, калі аналізавалі разам з Г. Малашыным, А. Галубовічам і А. Майдашавым той загад аб скарачэнні сувязей па кааперацыі, сярод мноства пазіцый знайшлі тое, што трэба было інвалідам — не размеркаваную нікому антэнную панель. Можа, і праўда выйшла такая памылка — згубілі адну пазіцыю, а можа (хоць і са спазненнем) паспачувалі «гарызонтаўцы» нізкааплачваемым інвалідам, але на 1993 год работу абяцалі даць.

Пішу гэтыя радкі і думаю: а што ж далей? Няўжо кожны год трэба будзе газеце ўмешвацца ў такія канфлікты, няўжо кожны год будуць хадзіць інваліды з працягнутай рукой? А што ж адміністрацыя, прафсаюзны камітэт «Вераса»? Чаму не хвалюе іх тое, што спыняе работу ўвесь радыёмантажны цэх? Справа, думаю, у тым, што, змяніўшы назву, атрымаўшы статус прамыслова-гандлёвага прадпрыемства, захавалі яны пры гэтым ільготы, вызначаныя для спецпрадпрыемстваў, таму і жывуць бязбедна: і прыбытак добры маюць, і падаткамі не абкладаюцца. А тое, будуць ці не мець работу інваліды, на зарплаце дырэктара, які працуе ў сістэме мясцпрама, ніяк не адаб'ецца. А вось абараняць інтарэсы інвалідаў павінен чамусьці нехта іншы.

На сур'ёзныя думкі навёў гэты канфлікт: у якой жа сістэме павінна існаваць сёння такое спецпрадпрыемства?

**Вольга ПІЛЕЦКАЯ.**
г. Мінск.

РЫНАК ЯК ЁН ЁСЦЬ

# Загадана быць аптымістам...

**Вядомы фінскі пісьменнік-сатырык Марці Ларні ў свой час пусціў у свет арыгінальна-з'едлівую фразу: дабрабыт дзяржавы вызначаецца дзвюма рэчамі — станам дарог і, прабачце, грамадскіх туалетаў. Зрабіўшы папраўку на гратэскавасць і афарыстычнае перабольшванне ў прыведзеных словах, адзначым, што, па вялікаму рахунку, няма нічога больш важнага, чым развіццё інфраструктуры, якая ў многім забяспечвае ўзровень сацыяльна-эканамічнага жыцця грамадства.**

**Становішча наша ў гэтым плане незайздроснае. Аб чым, дарэчы, ішла размова і на сустрэчы з журналістамі ва ўпраўленні тэрытарыяльнага развіцця, архітэктуры і будаўніцтва Кіраўніцтва справамі Саўміна рэспублікі.**

Заняпад інфраструктуры носіць пастаянны характар — яшчэ з часоў Расійскай імперыі і дзесяцігоддзяў камуністычнага таталітарызму. Сапраўды, калі гэта было, каб дзяржава дбала аб нармальным жыцці радавога грамадзяніна? Выдаваліся сотні партыйных пастаноў, але тыя ж дарогі ў большасці заставаліся дрэннымі, грамадскі транспарт і камунальная гаспадарка дыхаюць на ладан, пра жыллёвую праблему няма чаго і гаварыць.

Цяжкая спадчына дасталася маладой беларускай дзяржаве, што і казаць. Не інакш — трэба найхутчэй вызначыць напрамкі работы і закасаць рукавы. Праўда, запатрабуюцца і велізарныя сродкі — сотні і сотні мільярдаў рублёў. Скажам прама, іх мы заробім не хутка, і без запрашэння замежнага капіталу нам не абысціся.

— Суверэнітэт Беларусі «пацягнуў» за сабой неабходнасць вырашаць шмат такіх пытанняў, якія раней ніколі не паўставалі. Аднак мы ўвогуле паспяхова з гэтым спраўляемся, — даволі аптымістычна паведаміў начальнік упраўлення тэрытарыяльнага развіцця, архітэктуры і будаўніцтва Г. Варанюк. — У нас цяпер няма ніякіх «ідэолагаў», працуюць толькі прафесіяналы высокага класа.

Можна было б, зразумела, пайсці і далей па пратаптанай сцяжынцы, з такім жа аптымізмам пачаць пералічваць ужо зробленае. Так, выдадзена пастанова аб будаўніцтве жылых дамоў для продажу іх насельніцтву, рыхтуюцца да прадстаўлення ў Саўмін дакументы аб фінансавай падтрымцы грамадскага транспарту, павышэнні эфектыўнасці выкарыстання дзяржаўнай уласнасці і г. д. Не апошняе месца займае і прынятая нядаўна ўрадам дзяржаўная праграма па энергазберажэнню, бо энергетычны крызіс ужо на парозе.

Адным словам, многае робіцца для таго, каб падвесці грамадства да думкі: дзяржава з яе бедным бюджэтам больш не будзе трымаць на сваіх плячах увесь цяжар той жа жыллёвай і іншых сацыяльна-эканамічных праблем, што пара прывыкаць жыць па сродках. І гэта правільна: суверэннасць і самастойнасць вымушае пазбаўляцца ад легкадумных адносін да жыцця.

Паколькі падышлі да такой высновы, то міжволі прыйдзецца задацца пытаннем: ці не занадта лёгка плануем сваю будучыню, калі, вызначыўшы праблемы і выдаўшы «рэкамендацыі-пастановы», палічылі, што маем моцны рычаг уздзеяння на эканоміку і грамадства ўвогуле? Ці не будзем латаць усё той жа кароткі «трышкаў кафтан»?

Высвятляецца, што трэба ствараць базу для ўласнай лясной гаспадаркі ў Сібіры (калі, зразумела, дасць дазвол Расія), перабудоўваць усю беларускую хімію, каб яна працавала на патрэбы насельніцтва. Неабходна ўзводзіць уласную базу па машынабудаванню для будаўнічага комплексу, патрэбны сродкі для чарнобыльскай праграмы, валюта для стварэння ўласнага марскога флоту, патрэбна...

Карацей, паўторымся яшчэ раз, патрэбны мільярды і мільярды. Без іх усе намеры стварыць у Беларусі сучасную інфраструктурную гаспадарку — гэта маніла̃ўская мара. Прыкладам могуць паслужыць і факты, якія прагучалі на сустрэчы: мінскі вакзал будуецца ўжо каторы год—не хапае сродкаў, а каб завяршыць будаўніцтва Палаца рэспублікі, грошай няма наогул. І, каб закрыць тэму, скажам: на ўсё будаўніцтва ў рэспубліцы на наступны год ёсць толькі 15 мільярдаў рублёў.

Вось самае слабае месца ва ўсіх разліках, пэўнай жа канцэпцыі інвестыцый у інфраструктуру пакуль што няма. Як няма яе і ў праблеме: дадуць нам грошы заходнія партнёры ці не. Відаць, баімся вырашаць у гэтым плане галоўнае — на якіх умовах пойдуць да нас інвестыцыі з Захаду. Калі ласка, прыклад: бізнесмены з ЗША сёлета прапанавалі беларускаму боку рэканструяваць мінскую гасцініцу «Планета», выдзялялі на гэта 5 мільёнаў долараў. Мы ж ад стварэння сумеснага прадпрыемства адмовіліся...

Такія мы сёння «прадпрымальныя». На любым, між іншым, узроўні — ад дзяржаўнага да бытавога. Хто і што прымусіць нас выгадна і эканомна гаспадарыць — усеагульная нястача, голад і холад? Ужо даказана, напрыклад, што толькі ўстаноўка лічыльнікаў цяпла на прадпрыемствах змяншае яго расход амаль на трэць. Калі іх установяць, гэтыя лічыльнікі?

Пра тое, што ў жылых дамах трэба ўстанаўліваць лічыльнікі расходу вады, рэгулятары тэмпературы ацяплення, ужо надакучыла гаварыць. Быццам жывём мы па сённяшні дзень ва ўмовах былой «усесаюзнай багадзельні».

«Багадзельня» гэтая — у грамадскай свядомасці. Грамадскі транспарт у нас трашчыць па ўсіх швах, сродкаў на яго не хапае, а 5 мільёнаў жыхароў рэспублікі маюць законныя льготы і не плацяць за праезд. Дзе ў свеце яшчэ можа быць такое?

Можа, і крыўдна гэта прызнаваць, але, крычучы на ўсіх вуглах пра рынак, мы ў многім яго патрабаванняў не прымаем, жывём па ўчарашняй псіхалогіі. Які ўжо аптымізм пры такой «інфраструктуры-кан'юнктуры»...

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**





Іне АБУШКЕВІЧ (на першым здымку) форма да твару, але зусім не гэта вызначала яе выбар, калі дзяўчына прыйшла працаваць у міліцыю. Цяпер яна працягвае адукацыю па абранай прафесіі — вучыцца ў Акадэміі міліцыі МУС Рэспублікі Беларусь.

У гэтай навучальнай установе рыхтуюць высокакваліфікаваных следчых, юрыстаў. Лабараторыі і аўдыторыі акадэміі аснашчаны сучаснай спецыяльнай тэхнікай. Курсантаў Пятра ПІЧКОВА, Анатоля ГРАМЫКУ, Віктара МАКСАЧОВА (на другім здымку) фотааб'ектыў убачыў у кабінеце вылічальнай тэхнікі.

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

*Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

### АБ НЕКАТОРЫХ ПЫТАННЯХ ПЕРАРАЗЛІКУ ПЕНСІЙ

У мэтах узмацнення сацыяльнай абароны пенсіянераў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Устанавіць, што пры пераразліку пенсій з 1 студзеня 1993 г. у адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні» іх размер не можа быць меншы за раней вылічаны з улікам сумы аднаразовай выплаты, прадугледжанай пунктам 6 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30 кастрычніка 1992 г. № 658 «Аб сацыяльнай падтрымцы насельніцтва ў сувязі з далейшым ростам рознічных цэн на тавары і паслугі».

2. Устанавіць з 1 лютага 1993 г. даплату да мінімальных размераў пенсій па ўзросту, за выслугу гадоў, па інваліднасці, з выпадку страты карміцеля, у тым ліку да пенсій пры няпоўным стажы работы, якія выплачваюцца органамі сацыяльнага забеспячэння, у размеры 25 працэнтаў мінімальнай пенсіі па ўзросту. Указаная даплата робіцца незалежна ад надбавак да пенсій і іх павышэнняў, устаноўленых дзеючым заканадаўствам.

3. Прадугледжаныя гэтай пастановай выдаткі ажыццяўляць за кошт Пенсіённага фонду.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. КЕБІЧ.**
**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. КАЎКО.**

16 снежня 1992 г.
г. Мінск.

### Палескія Курапаты

**МАЗЫР. Праектным бюро пры галоўным архітэктару раёна распрацаваны праект памятнага знака ахвярам палітычных рэпрэсій. Выканком раённага Савета народных дэпутатаў прыняў рашэнне ўстанавіць знак у адным з лясных масіваў, які прымыкае да шашы Мазыр—Міхалкаўская Рудня, дзе, як мяркуецца, у 1937—1939 гадах было расстраляна 697 чалавек.**

ХТО ЁСЦЬ ХТО НА ЭКАНАМІЧНЫМ НЕБАСХІЛЕ

# «ЧЫМ БОЛЬШ ЗАБАРОН, ТЫМ ПЫШНЕЙШАЯ КАРУПЦЫЯ»

**У мінулую суботу і нядзелю свой з'езд (трэці па ліку) правяла Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі. На ім была прынята яе эканамічная канцэпцыя.**

Паводле слоў старшыні АДПБ А. Дабравольскага, галоўныя палажэнні канцэпцыі наступныя: фінансавая стабілізацыя і барацьба з інфляцыяй (з пераважным ухілам на скарачэнне дзяржаўных расходаў), хуткая і шырокая прыватызацыя. Пры гэтым А. Дабравольскі падкрэсліў, што, ставячы сваёй мэтай хуткія і карэнныя пераўтварэнні ў эканоміцы, партыя выступае за нерэвалюцыйныя метады.

У канцэпцыі дадзена ацэнка таго, як праводзяцца рэформы на Беларусі (наконт гэтага — ніжэй), падкрэсліваецца, што дасягнуць больш высокага ўзроўню жыцця людзей можна толькі за кошт эканамічнага росту, а не пераразмеркавання, што нярэдка назіраецца цяпер. Прыросту агульнага дабрабыту пры падобнай палітыцы чакаць нельга.

На з'ездзе прыняты таксама некалькі рэзалюцый: аб палітычнай сітуацыі і задачах партыі; па пытаннях развіцця рабочага руху (галоўная думка гэтай рэзалюцыі — рабочы рух не павінен выкарыстоўвацца ў інтарэсах тых ці іншых партый); аб неабходнасці падтрымкі недзяржаўнага сектара эканомікі.

Гэта ў асноўным тое, што занатавана ў дакументах. Разам з тым, размова на з'ездзе была намнога шырэйшай. У прыватнасці, прыгадваліся апошнія падзеі ў Расіі, звязаныя з выбраннем новага прэм'ера, прычым выказана насцярожанасць. А. Дабравольскі заўважыў, што галоўнае ў рэформах — павярнуць эканоміку на карысць чалавека. Гэта значыць, у любым выпадку асноўная гаворка павінна ісці пра тое, як стварыць для яго рэжым найбольшага эканамічнага спрыяння, што зрабіць, каб менавіта ён сам скіраваў сваю энергію ў тым ці іншым напрамку, а не вызначаць прыярытэты праз розныя дырэктывы... Калі ж ужо адразу распачынаць з падтрымкі таго ці іншага вытворчага комплексу, няхай гэта і вельмі неабходна, ужо адразу дабівацца адпаведных буйных крэдытаў для гэтых комплексаў, — то з такімі метадамі можна прыйсці, ці дакладней — вярнуцца назад да знаёмай адміністрацыйнай эканомікі. Эканомікі для планаў, для паказчыкаў, для ВПК і г. д. Толькі не для чалавека. На такім шляху чакае адкат, які, згодна з вывадамі АДПБ, мае ўжо месца ў нас. А цяпер можа нават паскорыцца.

Варта нагадаць, што некалькі раней па ініцыятыве АДПБ, Асацыяцыі маладых палітычных дзеячаў і іншых арганізацый у Мінску прайшла міжнародная канферэнцыя «Эканамічныя рэформы ў посткамуністычным грамадстве: ліберальны выбар». На гэтай канферэнцыі таксама неаднаразова гучала слова «адкат». Гэта значыць — адкат у рэформах на Беларусі, у рынкавых пераўтварэннях, прычым на падобнай ацэнцы сышліся практычна ўсе. Аўтары гэтых заяў бачаць адкат ад рынку ў супраціўленні яму ўладных структур. А яшчэ — у калектывісцкай псіхалогіі людзей, менталітэце нашага народа, якому блізкія і зразумелыя камуністычныя лозунгі, калектывісцкія ідэі. Увогуле, на думку некаторых удзельнікаў канферэнцыі, нас пры цяперашнім развіцці падзей можа чакаць вяртанне да таталітарызму і нават дыктатуры. Пры гэтым прыводзіліся адпаведныя даследаванні заходніх сацыёлагаў, якія вывучылі эканамічнае становішча 20 краін напярэдадні ўстанаўлення ў іх дыктатуры. Працэсы — вельмі падобныя.

Можна спрачацца з такімі вывадамі, разам з тым, наўрад ці хто будзе сцвярджаць, што ў нас створаны ўсе ўмовы для развіцця прадпрымальніцтва, станаўлення дробнага і сярэдняга бізнесу, стварэння новага, сярэдняга класа, які менавіта і здольны надаць незваротнасць рэформам. Наадварот, асобныя «меры» хутчэй скіраваны на тое, каб пацішку прыкрыць «усё гэта». Што азначае, напрыклад, цяперашняя ціхая перарэгістрацыя малых прадпрыемстваў — без аніякіх паведамленняў, выклікаў саміх «рэгістратараў»? Між іншым, і тэрмін крайне абмежаваны — да першага студзеня, а хто не паспеў — ужо знаёмыя ліквідацыя з канфіскацыяй.

Гэта адзін бок справы. Другі змяшчаецца ў выказванні, якое прагучала на той жа канферэнцыі, што паміж прадпрымальнікамі і крымінальнікамі (вось як: нават рыфмуецца) нярэдка ставіцца знак роўнасці. Выпадкова ці знарок «нагнятаецца» грамадская свядомасць, якая і без таго мае выразную «антыбуржуйскую» афарбоўку.

Што, на думку членаў АДПБ, трэба рабіць? Найхутчэйшую прыватызацыю. І іх, дарэчы, у гэтым цалкам падтрымліваюць маладыя, радыкальна настроеныя эканамісты Беларусі. Нам патрэбна прыватызацыя хоць якая-небудзь, патрэбен сам працэс. Менавіта праз прыватызацыю можна стварыць сярэдні слой грамадства, слой уласнікаў. Усякая затрымка з прыватызацыяй — толькі на руку дзяржаўным чыноўнікам, якім вельмі зручна ў падобнай абстаноўцы рыхтаваць базу для будучага. Увогуле, трэба як найхутчэй адарваць уласнасць ад дзяржавы.

«Мы нават супраць часовай забароны прыватызацыі, — заначыў А. Дабравольскі. — Чым больш забарон, тым пышней квітнее карупцыя. Забароны — гэта і ёсць той палетак, з якога збіраюць ураджай дзяржаўныя чыноўнікі. Вядома, не ўсе, але ж многія».

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

